

# Дзвінскі ўзгорак

*Кроч на свой родны,*
*дзвінскі ўзгорак,*
*каб глядзець у будучую сінь*

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАГА РАЁНА, №2 (53)
СТУДЗЕНЬ 2017 ГОДА

СВЯТКАВАННІ

## КРОЧЫЦЬ КАЛЯДА

**На Каляды ў пасёлак радавых маёнткаў «Звон-Гара» штогод прыязджаюць госці з Мінска і Масквы. Не сталі выключэннем і сёлетнія святкі.**

Традыцыя правядзення Калядаў на «Звон-Гары» існуе больш за пяць гадоў. Рыхтуюцца да іх загадзя. Дарослыя разам з дзятвой развучваюць тэматычныя песні, прыпеўкі, прычым многія з іх — аўтэнтычныя. Асобны рытуал — падбор адзення ўдзельнікам святочнага дзейства.

У мінулым годзе ў малодшых хлопчыкаў і дзяўчынак быў дэбют, таму сёлета яны трымаліся больш упэўнена. На высокім узроўні правялі абрад маленькія «горцы». Колькасць самадзейных акцёраў — ад сямі да пятнаццаці. Кожнаму адведзена свая роля.

Нязменныя персанажы — Каза, Мядзведзь, Бусел, Дзед. Узначальвае святочнае шэсце калядоўшчыкаў Зорачка. У гэтым годзе за ёй да ўсяго крочылі лекар, цыгане, а таксама лясныя звяры. Яны з'явіліся ў праграме ўпершыню, чым абавязаны Уладзіміру Кухто, які адказвае за падрыхтоўку сцэнарыя. Аднак апошняе слова застаецца за творчым калектывам.

Не толькі ёнх хваляваўся перад чарговым выступленнем, але і гаспадары падворкаў, якія становяцца ў гэтыя святочныя дні пляцоўкамі для тэатралізаванага свята. Яны не толькі рыхтуюць пачастункі, але і шматлікія выпрабаванні калядоўшчыкам, цікавыя вясёлыя конкурсы. Гарэзлівыя хлопцы і дзяўчаты, малеча развітваюцца з гаспадарамі з поўнымі кішэнямі і торбамі прысмакаў. Што тыя шчодрыя, не толькі на «Звон-Гары», але і ў суседніх вёсачках, ведаюць дакладна. Калядоўшчыкі штогод прэзентуюць сваю святочную праграму ў клубе аг. Задуброўе. У тым, што яна мае глыбокія каляндарна-абрадавыя карані, упэўніліся вучні Вымнянскага дзіцячага сада-сярэдняй школы, дзе «горцы» — чаканыя госці, бо там разумеюць, што адраджэнне традыцый і звычаяў беларусаў — неад'емная частка выхаваўчага працэсу, да якога неабходна далучаць дзетак, паколькі без ведання мінулага няма будучага.

**Таццяна Дзіканава**
**«Жыццё Прыдзвиння»**

ГІСТОРЫЯ

## НОВАЯ КНІГА КРАЯЗНАЎЦА З ЛУЖАСНА

**У Віцебскай абласной бібліятэцы прайшла прэзэнтацыя даведніка «50 музэяў Віцебску», складзенага краязнаўцам и гистрыкам Мікалаем Піваварам.**

Гэта быў першы досьвед калектыўнага збору грошай на выданьне з дапамогай пляцоўкі ulej.by.

Дзякуючы 95 ахвярадаўцам праект сабраў 2 100 рублёў. Гэта дазволіла ажыцьцявіць даўнюю мару, кажа аўтар:

«Ідэя прааналізаваць, колькі ж у Віцебску музэяў ёсьць сёньня і было ў ранейшыя гады, прыйшла ў 2012 годзе. Я вывучаў дзейнасьць віцебскіх краязнаўцаў, якія прычыніліся да музэйнай справы ў нашым горадзе, і тут задумаўся: а колькі ж насамрэч у Віцебску музэяў? Аказалася, што іх вельмі шмат, калі падлічыць ня толькі вядомыя ўсім краязнаўчы музэй або дом-музэй Марка Шагала. Напрыклад, 25 музэяў ёсьць толькі ў віцебскіх ВНУ, 30 — на прадпрыемствах і ў розных установах, 4 прыватныя экспазыцыі, і гэта яшчэ ня ўсё! Што важна, трапіць у гэтыя музэі можа кожны ахвотны. Але пры адной умове: калі ты ведаеш пра іх існаваньне».

Гэтай мэтай — праінфармаваць віцяблян, гасьцей гораду, а таксама ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Віцебску, — і кіраваўся Мікалай Півавар, ствараючы музэйны даведнік. Структура кнігі простая: агульная інфармацыя са статыстычнымі зьвесткамі, адрасы музэяў, фотаздымкі фрагмэнтаў экспазыцыі і кантактныя зьвесткі. Апошняе надзвычай важна, бо ня ўсе музэі на прадпрыемствах або ў навучальных установах маюць супрацоўніка, які на працягу дня чакае наведнікаў. Таму на прыватныя візыты або экскурсіі трэба дамаўляцца загадзя.



Затое экскурсантаў чакаюць сапраўдныя адкрыцьці і незвычайныя цікавосткі, пра якія ведаюць нават далёка ня ўсе мясцовыя жыхары, кажа Півавар:

«У горадзе ёсьць, напрыклад, музэй папяровай пляснткі ў сярэдняй школе № 25. Мала хто пра яго ведае, але туды можна прыходзіць зь дзецьмі, і яны будуць проста ўражаныя, колькі ўсяго можна зрабіць з паперы. А ў музэі акадэміі вэтэрынарнай мэдыцыны захоўваецца шкілет слана — гэта адзіны такі экспанат у Беларусі. У Доме культуры чыгуначнікаў ёсьць музэй зь дзейным макетам чыгункі; у каледжы, дзе вучаць на кухараў — музэй кулінарных вырабаў. Яны не ядомыя, але ісьці туды раю толькі добра пад'еўшы — настолькі натуральна і апэтытна ўсё выглядае... Я сам быў уражаны, колькі ўсяго можна паглядзець!»

Паводле краязнаўцы, у зборнік можна было ўключыць і большую колькасьць музэяў, бо іх у горадзе пад 100. Былі выбраныя самыя цікавыя, з разьлікам на турыстаў. І паколькі большасьць гасьцей прыяжджае ў Віцебск з Расеі, таму і кніга выдадзеная па-расейску.

Зрэшты, Мікалай Півавар да апошняга ня верыў, што выдаць такі даведнік за ахвяраваныя грошы наогул магчыма. «Ідэйным натхняльнікам» гэтай справы стаў віцебскі актывіст, прадстаўнік супольнасьці Vitebsk4me Раман Воранаў. Ён кажа, што неабходная сума была лёгка сабраная цягам 2-х месяцаў:

«Выдадзена 400 асобнікаў кнігі, якую ўпершыню прэзэнтавалі на сёлетнім фэсьце «Барадулінкі» — яшчэ ў якасьці праекту. Гэта першы досьвед у Віцебску, калі на выданьне зьбіралі сродкі праз краўдфандынг. Цікава, што ў ліку самых шчодрых спонсараў — былыя вучні і выхаванцы Мікалая Півавара. Ён жа ня толькі вядомы ў горадзе краязнаўца, але таленавіты пэдагог. Шмат гадоў ён выкладаў у абласной беларускай гімназіі, якая працавала ў пасёлку Лужасна. Цяжка нават уявіць, колькі кілямэтраў выхаджана падчас краязнаўчых паходаў па Лужасьнянскіх ваколіцах гімназістамі ды іхным настаўнікам гісторыі! Цяпер Мікалай Півавар навучае студэнтаў ВДУ. Апрача гэтага, ён ладзіць найцікавейшыя вандроўкі па Віцебску і ваколіцах, бярэ ўдзел у розных нефармальных культурніцкіх праектах.

Што да ўласных праектаў, то ў Мікалая Півавара настолькі багата ідэяў, што падчас прэзэнтацыі ён зьвярнуўся да прысутных па дапамогу. Маўляў, ёсьць матэрыялы сама меней для 70 выданьняў, прысьвечаных Віцебшчыне. Але, каб напісаць гэта ўсё, ня хопіць звычайнага чалавечага жыцьця. Таму краязнаўца шчыра гатовы падзяліцца — ён шукае аднадумцаў і пасьлядоўнікаў. Кажа, што гатовы як да суаўтарства, так і да перадачы сабраных матэрыялаў іншаму дасьледчыку — каб толькі краязнаўчая справа не стаяла на месцы.

Кніга «50 музэяў Віцебску» таксама далёка ня першая ў Мікалая Півавара. Праўда, ён ня можа ўдакладніць, каторая па ліку, бо ня ведае, ці лічыць выдадзеныя мэтадычныя распрацоўкі, якіх незьлічона назьбіралася за час настаўніцкай дзейнасьці. Але краязнаўца настроены напісаць яшчэ сама мала 20 кніг, якія цяпер у рознай ступені гатоўнасьці. Адну зь іх ён хацеў бы выдаць ужо сёлета — у год Скарыны, адметны паўтысячагадовым юбілеем выхаду першай беларускай кнігі ў Празе. «Малая падарожная кніжыца па Лужасьне» — такую назву прыдумаў краязнаўца для свайго чарговага зборніка, прысьвечанага мясцовасьці, дзе ён доўгі час жыў і працаваў.

**svaboda.org**

РЫНАК ПРАЦЫ

## КАК НАЙТИ ВАКАНСИЮ НА НЕСУЩЕСТВУЮЩЕМ САЙТЕ?

**Отдел по занятости населения управления по труду, занятости и социальной защите населения Витебского райисполкома даёт ссылку на несуществующую страницу.**

Сегодня основная проблема для жителей Беларуси в целом, так и Витебского района в частности это поиск рабочего места. С раннего утра в поисках вакансии многие сотни желающих найти новое рабочее место устремляются к дверям отделов по занятости населения в поисках заветного листка с списком вакантных рабочих мест. Те, кто пользуется компьютером или другими электронными устройствами предпочитают посещать сайты тех же отделов по занятости населения.

Но вот какая неприятная ситуация ожидает их на сайте Минтруда, где указаны контакты отдела по занятости населения управления по труду, занятости и социальной защите населения Витебского райисполкома. Указанный сайт http://vitebsk.vitebsk-region.gov.by/ru/kontakty не открывает искомой информации, указывает, что страница не найдена. Как говорится, сразу видно отношение властных структур к своим гражданам.

Хорошо, что есть множество других ресурсов, из которых мы узнаём, что на сегодняшний день существует 105 вакансий для организаций и предприятий Витебского района. Заработная плата от 230 рублей (и даже на 0,5 ставки 115 рублей!) до 1175 рублей как директора УП «ОксесДомИнвест». В основном обещают от 250 до 500 рублей за работу по специальности множества специалистов: директор по производству, инженер-технолог, техник по эксплуатации и ремонту оборудования, инженер по качеству, водитель автомобиля, юрисконсульт, провизор ветеринарной медицины, лаборант-микробиолог, биохимик, специалист по ценным бумагам, специалист по маркетингу, химик, администратор компьютерных сетей, начальник отдела правовой и кадровой работы на ОАО «БелВитунифарм», инженер на ОАО «Агротруд», кочегар котельной для ООО «Свarговит», инженер-методист по адаптивной физической культуре на пол ставки и специалист по социальной работе в Селютский дом-интернат, зоотехник в ОАО Липовцы, директор сельского дома культуры, слесарь-ремонтник и тракторист-машинист на Витебскую бройлерную птицефабрику. Есть вакансии в Витебском авиацентре «Авиация», ООО «Грибоедофф», вальщика леса в Суражском лесхозе, бухгалтер в филиал «Полудетки» ОАО «Молоко», и ещё множество других.

Пожелаем всем нуждающимся в стабильной заработной плате на постоянном рабочем месте в наступившем году найти такие места, несмотря на нежелание властных сайтов информировать жителей Витебского района о существующих вакансиях в организациях и предприятиях района.

**А.Адамов**

ПАДАТКІ

# ПОВЫШЕНЫ СТАВКИ НАЛОГА

**Решением Витебского областного Совета депутатов от 15 декабря 2016 года № 162 утверждены новые ставки подоходного налога при сдаче жилья внаем на 2017 год.**

Ставки увеличены по сравнению с 2016 годом и зависят от зон, на которые разбит город в зависимости от удалённости от центра.

Как сообщила первый заместитель начальника ИМНС по Первомайскому району Людмила Дубинина, для первой, центральной, зоны Витебска установлен подоходный налог в размере 27 рублей (в прошлом году — 24 рубля). К центральной зоне в Первомайском районе относятся, например, начальные дома по проспектам Московский и Черняховского, начальные дома по улице Чкалова, застройка по улице Академика Павлова и другие.

Если дома сдаются во второй, срединной, зоне, то ставка подоходного налога уже составляет 26 рублей вместо 23 ранее. Ко второй зоне в Первомайском районе относится застройка в микрорайоне Билево, по проспекту Победы, продолжение проспектов Московский и Черняховского и так далее. И ставка налога для третьей, периферийной, зоны составляет 25 рублей (ранее 22 рубля). Эта зона охватывает городские окраины — ДСК, Марковщину.

Такая градация существует по каждому административному району областного центра.

Только в Первомайском районе 3,5 тысячи владельцев квартир сдают жилье внаем, за что платят подоходный налог.

Повышение налога превысило уровень инфляции за 2016 год.

**А.Смоленский**

НАВАЦЫЯ

# ТАБУН СКАКУНОВ ПОЯВИЛСЯ В ОАО «ВОЗРОЖДЕНИЕ»

**Открытое акционерное общество «Возрождение» Витебского района по производству сельхоз-продукции держится в середняках.**

Но молодой руководитель Олег Лазовский, который возглавил хозяйство порядка двух лет назад, утвердительно заявляет, что коллективом делается все, чтобы приблизиться к передовым позициям.

**Чтобы самые смелые планы воплотить в жизнь, не боится набить шишек. На удачу — подкова в помощь...**

Практически год назад акционерное общество обзавелось скакунами белорусской упряжной породы. Усмирить крутой нрав дикого табуна было непросто. Лошадки росли, как в народе говорят, на лес глядючи. Правда, говорить про их дюжесть не приходилось. Многих возрастных животных настигли различные заболевания. Из более чем десятка осталось шесть. Под них отвели место на животноводческом объекте в деревне Большие Летцы. У каждого питомца свой денник. Оборудовали загон: вырезали древесно-кустарниковую растительность, примыкающую к ферме, разработали участок. Настоящее раздолье для лошадей, ведь воля им нужна как воздух.

На прогулке животные держатся вместе. Даже когда к ним приходят гости — местные жители, мальчишки и девчонки из Великолетчан-ского детского дома — «на разведку» отправляются сплоченной командой.

**— Детвора, — рассказывает Олег Владимирович, — всю осень подкармливала четвероногих яблоками из своего фруктового сада.**

Хоть лошадки в питании и не привередливы, но выпросить у человека какое-нибудь лакомство — любимое дело! У руководителя «Возрождения» всегда в машине пачка-другая рафинированного сахара.

**— Это так, чтобы побаловать лошадок! — объясняет Олег Лазовский.**

Каждое воскресенье в рационе скакунов — вкуснейшие печеньки. Ими прикармливает животных 2-летний сынишка Олега Владимировича. Для Назара и его старшей сестры — 11-летней Ангелины — стало традицией в выходной день выбираться на мини-конеферму, чтобы пообщаться с лошадками, а те не прочь быть обласканными людским вниманием и заботой. Ведь именно они, убежден директор акционерного общества, сделали из своенравных диковатых почти ручных скакунов. Еще недавно лошадки были безымянным «племенем», а теперь у каждого животного есть своя кличка, на которую оно резво откликается. Кукла, Марта... К руководителю тянутся все, но особую симпатию проявляет жеребенок по прозвищу Малышка. Олег Владимирович не скрывает:

**— Моя любимица!**

На минуту показалось, что он общается с животными на понятном только им языке. А ведь у них и правда есть общие черты — трудолюбие, напористость, неуемная энергия...

Мечты у Лазовского смелые. Однако, будучи реалистом, он понимает, что прежде, чем говорить о перспективах коневодства (как вариант — оказание ряда услуг), предстоит много работать. Важна целенаправленная деятельность в этом плане.

Несмотря на то, что сейчас это, скорее, расходная, а не доходная часть бюджета хозяйства, Олег Владимирович не исключает, что со временем одним из приоритетных направлений может стать и эта статья. В планах у руководителя пополнить табун жеребцом. Своенравным, красивым, статным.

Есть заинтересованность у зооветслужбы, в целом у коллектива. Уже то, что в полупустующее животноводческое здание вдохнули жизнь — много значит. Помещения не разрушаются. У них есть хозяин. Совсем скоро на МТФ в Больших Летцах обретет «зимние квартиры» новая группа крупного рогатого скота.

В хозяйстве делается ставка на молочное скотоводство.

**— Молоко — это живые деньги, и у нас есть возможность увеличить количество их получения только одним путем, наращивая производство, — констатировал руководитель, подчеркивая, что результаты в животноводстве зависят от надежной кормовой базы. — Одним их количеством привесов и надоев, а в «Возрождении» свыше тысячи голов дойного стада, не достигнешь. Прежде всего, необходимо следить за качеством, сбалансированностью по питательным веществам. Нынче заготовлено 27 центнеров кормовых единиц на условную голову. Как ни банально звучит, но три кита в животноводстве неизменны: корма, грамотно организованная племработа и условия содержания скота.**

Витебчанка Ольга, которая по собственной инициативе приезжает в Большие Летцы каждые выходные, пробует объезжать лошадок. Девушка с детства влюблена в этих животных, поэтому общение с ними — в радость. Лучше любого инструктора может долго и профессионально рассказывать о пользе занятий верховой ездой. Ольга говорит, что время, проведенное в компании скакунов, в чем-то заменяет поход к психологу. Размеренные и ритмичные движения лошади благоприятно воздействуют на мышцы, сердечно-сосудистую и дыхательную системы человека. Достигается эффект «живого тренажера».

Наверно, из этих наблюдений выделили целую систему лечебной верховой езды — иппотерапию. Чаще всего ею занимаются дети с ДЦП. Однако для этого необходимо участие специального врача. Кто знает, может в ближайшем будущем на базе придвинского хозяйства откроется такой лечебный «кабинет», а к Олегу Лазовскому будут приезжать за передовым опытом.

Большие Летцы... Далеко не нужно будет ехать и гостям северной столицы, чтобы поудобнее усесться в сани, запряженные тройкой рысаков, и с ветерком отправиться в увлекательное путешествие по Придвинскому краю.

**Татьяна Диканова «Жыццё Прыдзвіння»**

ЗДАРЭННІ

# ДЗЯЎЧЫНКА АТРЫМАЛА ТРАЎМЫ

**У аграгарадку Кіраўскі Віцебскага раёна пад колы машыны хуткай медыцынскай дапамогі трапіла дзіця 2 гадоў 8 месяцаў і атрымала траўмы.**

Здарэнне адбылося 14 студзеня каля 21:30 на Цэнтральнай вуліцы ў аграгарадку Кіраўскі.

Следчымі ўстаноўлена, што дзяўчынка выпала з надзіманых санак пры перавозцы. У выніку наезду машынай «хуткай» яна атрымала траўмы і была шпіталізаваная ў Віцебскую абласную клінічную бальніцу.

Па факце гэтага ДТЗ праводзіцца праверка Віцебскім раённым аддзелам Следчага камітэта, паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Святлана Сахарава.

Падрабязнасці здарэння паведамляе kp.by: — Каля 21:30 дзяўчынка гуляла разам са сваёй мамай і цёткай. Цётка везла на трохкутных надзіманых санках яе і сваё дзіця. У нейкі момант жанчына паскорыла рух, каб пракаціць дзяцей хутчэй, і не заўважыла, як пляменніца выпала з санак. Следам ехала машына «Хуткай дапамогі», - распавяла афіцыйны прадстаўнік УСК па Віцебскай вобласці Святлана Сахарава.

Дзяўчынка была апранута ў белую куртку, і кіроўца «Хуткай» заўважыў дзіця не адразу, а калі ўбачыў, затармазіць ўжо не паспеў, але паспеў здзейсніць манеўр, каб прапусціць ляжачае дзіця паміж коламі машыны, распавяла Святлана Сахарава. Дзяўчынка шпіталізавана з закрытай чэрапна-мазгавой траўмай і ударам галаўнога мозгу.

**А.Адамаў**

# ПРИГОВОР ЗА УБИЙСТВО

**Жителю Витебска грозит расстрел за убийство и покушение на убийство прошлым летом в деревне Пушкари.**

В суд отправлено дело ранее судимого 29-летнего жителя Витебска, который в деревне Пушкари Витебского района одного человека зарезал, второго ранил, а потом стал прятаться в лесу...

Обвиняемый некоторое время перед убийством жил у своей бабушки в деревне Пушкари. В ночь с 1 на 2 июля 2016 года он употреблял спиртные напитки, а в это время к соседям приехала компания из трех мужчин: дядя и его племянник с другом.

Утром 2 июля между соседями возник конфликт из-за выпивки. Витеблянин сходил в дом бабушки за ножом и стал, размахивая им, угрожать убить племянника. Когда за того вступился друг, нападавший легко порезал его.

После этого в конфликт вмешался дядя, но через мгновение 56-летний мужчина получил удар ножом в сердце. Пострадавшего в 4:50 доставили в больницу, однако в 8:00 он умер.

Устроивший поножовщину парень убежал в лес, однако там его разыскали и задержали сотрудники милиции.

Следствием 29-летнему витеблянину предъявлены обвинения в угрозе убийством (статья 186 УК), насилии в отношении лица, выполняющего общественный долг по пресечению правонарушений (часть 1 статьи 366 УК) и убийстве лица, в связи с выполнением им общественного долга (пункт 10 части 2 статьи 139 УК), сообщает официальный представитель УСК по Витебской области Светлана Сахарова.

С момента задержания обвиняемый содержится под стражей. Сейчас уголовное дело передано прокурору для направления в суд. Санкции 2-й части 139 статьи Уголовного кодекса предусматривают наказание в виде лишения свободы на срок от восьми до двадцати пяти лет, или пожизненного заключения, или же смертной казни.

**А.Адамов**

## АБ'ЯВА

***Каб атрымліваць кожны нумар газеты "Дзвінскі Ўзгорак" паведаміце рэдакцыі аб гэтым. Калі не жадаеце атрымліваць газету, то патэдэфануйце.***

***Калі парушаны вашы правы спажыўца, працаўніка, то даем эфектыўныя парады па абароне права і пошуку бясплатных юрыстаў. Звяртайцеся на адрас газеты "Дзвінскі Ўзгорак".***

***Наша газета стала размяшчацца на партале http://kamunikat.org, дзе зацікаўленыя грамадзяне могуць яе спампаваць яшчэ да з'яўлення газеты на паперы.***





НАША ЎЛАДА

# ЛУКАШЕНКО ПОТЕРЯЛ НЮХ?

**В чем просчитался глава государства в борьбе с «иждивенцами». Поразительно, насколько непрагматично повел себя в ней Александр Лукашенко. Наверное, в теории, которую ему представили, все выглядело достаточно неплохо. Действительно, почему бы не собрать деньги с тех, кто не платит налоги, а пользуется социалкой?**

На практике же глава Беларуси настроил против себя существенную часть общества, а новых сторонников вряд ли приобрел. К алкоголикам и бичам приравняли, к примеру, домохозяек (исключение сделали для тех, у кого дети до 7 лет). Этому удивились даже на государственном телевидении.

Лукашенко вполне мог сохранить лицо, если бы «отмотал» свое решение. Подобный фокус он не раз проделывал прежде — вспомним хотя бы «откручивание» цен на продукты и бензин. Удивительно, что в этот раз глава государства не прочувствовал момент, и сделал еще хуже. Согласно недавним изменениям заставят платить налог и тех домохозяек, чьи дети с 3 до 7 лет получают дошкольное образование.

Впечатляет и цена вопроса, из-за которой руководитель страны устроил всю эту возню. К примеру, повышение пенсионного возраста многим может не нравиться, но в том, что этот выгодно для государства, сомневаться не приходится. А вот что касается «тунеядцев»...

По последним данным им направлено 400 тысяч извещений на уплату сбора. Сделаем смелый прогноз — налог оплатит половина. В этом случае в бюджет поступит около 40 млн долларов. Это много или мало? Предоставим слово самому Александру Лукашенко.

Говоря о том, во сколько обойдется проведение Европейских игр, он отметил: «Нам надо будет затратить где-то под 50 миллионов долларов за эти годы. Это слезы для страны».

Но и более крупные суммы государство не впечатляют. В декабре Лукашенко заявил, что за год резиденты СЭЗ перечислили в бюджет «несчастных» 200 млн долларов. К слову, ВВП страны составляет около 50 млрд. долларов.

Наконец, давайте вспомним 2011 год. Тогда страна жила в условиях девальвации и валютного кризиса. Но глава государства не стал дальше обдирать людей, а наоборот распорядился осенью выдать бюджетникам и неработающим пенсионерам по 500 тысяч рублей — «на овощи». Заявлялось, что для этой единовременного подарка государство выделило 1,7 триллиона рублей.

Согласно тогдашнему курсу этот составляло около 300 млн долларов. То есть в несколько раз больше, чем теперь власти пытаются выбить с «тунеядцев».

Большая загадка, что же произошло с Лукашенко за время, прошедшее с тех пор. Он сегодняшний все меньше похож на того человека, который раньше нутром чувствовал, как заработать очки в глазах электората. Вместо этого — непродуманные радикальные решения и упорство — достойное лучшего применения.

И, пожалуй, уже сейчас можно назвать главный итог еще продолжающейся борьбы с «иждивенчеством». Вне зависимости от того, чем она закончится, глава Беларуси вряд ли сможет восстановить свои репутационные потери.

**Руслан Горбачев**
**http://gazetaby.com**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# «МАТРЫЦА ЗАДАЧ» ЯК АПОШНІ ДОВАД

**Студзень — час фантазаваць на тэму бліжэйшых перспектыў беларускай мадэлі. 2017 год — юбілейны! Юбілей дзвюх рэвалюцый. На думку АП, «беларусы свой рэсурс рэвалюцый вычарпалі». Але тут ёсць з чым паспрачацца.**

На першы погляд, паміж мінулым, сучаснасцю і будучыняй існуе лінейная сувязь. Але гэта побытавае ўяўленне. На мяжы IV–V стагоддзяў нашай эры жыў хрысціянскі багаслоў Блажэнны Аўгустын. Ён адмаўляў мінуламу і будучыні ў праве на існаванне, мяркуючы, што ёсць толькі тры віды гэтага: мінулае сучаснасці, цяперашчына сучаснасці і будучыня сучаснасці.

Зразумець гэта даволі проста. Што азначае для кожнага з нас мінулае? Толькі тое, што мы думаем пра яго ў рэжыме тут і цяпер. Напрыклад, на думку галоўнага героя «азбук паліталогіі», 25 гадоў таму ён быў адзіным дэпутатам, які прагаласаваў супраць Белавежскага пагаднення. Але асабіста для мяне і для ўсіх, хто меў магчымасць трымаць у руках пратакол гістарычнага галасавання, такога мінулага ніколі не існавала.

Мінулае, сучаснасць і будучыня ў кожнага свае, і разгортваецца гэта тройца адначасова. Таму любая спроба прагнозу ўпіраецца ў разуменне сучаснасці, з якой, як стрэлы з цыбуліны, вырастаюць магчымыя варыянты будучыні, і як карані прарастаюць варыянты мінулага.

**Чатыры сцэнары**

Па якім сцэнары жыла беларуская мадэль у мінулым годзе? Колькі людзей — столькі і меркаванняў. Але, каб спрасціць пошукі адказу, я прапаную набор найбольш верагодных сцэнарных варыянтаў: крызісны, інерцыйны, кансерватыўны і мадэрнізацыйны.

Які сцэнар афіцыйна дэкларуецца? Адказ на гэта пытанне знойдзем у перадвыбарчай праграме адзінага палітыка (АП) узору 2015 года. Прывяду ключавыя цытаты: «Нам нельга страціць тое, што ўжо дасягнута». «Перш за ўсё мы павінны абараніць тое, што ўжо створана». «Што маем — не захоўваем, страціўшы — плачам», — так кажа народная мудрасць».

Выбар на карысць кансерватыўнага (ахаваль-нага) сцэнару відавочны. Праз тры месяцы ў навагоднім віншаванні ён быў дапоўнены падрабязнасцямі, якія палохалі: стары парадак руйнуецца, ідзе новы перадзел свету, і ў гэтай «абстаноўцы мы яшчэ вастрэй адчуваем велізарную каштоўнасць спакою, міру і згоды ў нашай краіне. На вялікае шчасце, нам удаецца зберагчы Беларусь ад войнаў, тэрарызму і ўнутранай смуты».

Вось такая цяперашчына сучаснасці. Калі з усіх правоў чалавека актуальным становіцца толькі права на жыццё, тады згадкі трохгадовай даўніны пра мадэрнізацыю і асцярогі «застацца на ўзбочыне гісторыі» пачынаюць успрымацца як блюзнерства.

Так, на ўзбочыне, але жывыя! І няхай «сучасная цывілізацыя — гэта цывілізацыя пастаяннага паскарэння», мы яшчэ паглядзім, куды яе выкіне на чарговым гістарычным віражы. І глядзець мы будзем з Беларусі, якая пад мудрым кіраўніцтвам самі ведаеце каго ў наш дынамічны час застаецца цытадэллю «традыцыйнай культуры і маралі».

Але не ўсё, што ў палітыцы дэкларуецца, атрымліваецца рэалізаваць на практыцы. Калі замест абяцанага, няхай і нязначнага росту даходаў насельніцтва назіраецца іх устойлівае падзенне, дык ці не сведчыць гэта пра фактычную рэалізацыю крызіснага сцэнару?

Кансерватыўны сцэнар ва ўмовах істотнага пагаршэння знешняй кан'юнктуры можа запатрабаваць ад кіраўніцтва краіны нестандартных рашэнняў не ў меншым аб'ёме, чым сцэнар мадэрнізацыйны. Аднак з упартасцю, вартай лепшага прымянення, АП працягвае паўтараць пра нязменнасць першапачатковага курсу, рашуча спыняючы пры гэтым любыя рэфарматарскія ініцыятывы ўрада.

Такім чынам, фактычна мы маем інерцыйны сцэнар з высокімі шанцамі трансфармацыі ў сцэнар паўнавартаснага сістэмнага крызісу.

**Кожнаму па 500**

Лістапад запомніўся нечаканым вяртаннем да народа тэмы сярэдняга заробку ў 500 долараў. Чым скончылася першая яе рэалізацыя, мяркую, беларусы яшчэ не забылі. Калегі па аналітычным цэху, натуральна, пачалі ацэньваць шанцы рэалізацыі чарговай ініцыятывы АП.

Нагадаю, даручэнне пра выхад на сімвалічную адзнаку было агучана 14 лістапада ў час рабочай паездкі АП у Магілёў. Цытую: «Я не кажу, што павінны плаціць незаробленыя грошы. Ні ў якім разе. Інакш мы вернемся да таго, з чаго пачыналі два гады таму. Мы павінны стымуляваць, падштурхоўваць кіраўнікоў прыватных і дзяржаўных прадпрыемстваў да таго, каб мы да 500 долараў наблізіліся. Трэба людзей падтрымліваць, што б там ні было».

Рэкамендую ўважліва перачытаць цытату. У пачатку АП перасцерагае ад выплаты незаробленых грошай. Але заканчвае тым, што пастаўленая задача павінна быць выканана «што б там ні было».




Праз тры дні на прэс-канферэнцыі для прадстаўнікоў расійскіх рэгіянальных СМІ АП быў максімальна канкрэтны: «Памерці, але выйсці на 500. Я буду рабіць усё, каб мы выйшлі на 500».

Каму канкрэтна трэба будзе памерці, ён не ўдакладніў. Ад сябе дадам, што апошняе абавязацельства ў афіцыйныя тэксты не патрапіла. Яно адсутнічае на сайце АП, няма яго і ў тэксце, апублікаваным у «Савецкай Беларусі».

Павышаць заробкі АП плануе за кошт росту прадукцыйнасці працы. Нічога асабліва беларускага ў гэтым няма. Так робіць увесь свет, інвестуючы штогод трыльёны долараў у новае абсталяванне, тэхналогіі і павышэнне кваліфікацыі работнікаў. Сучасны эканамічны рост — гэта рост інавацыйны. Як тут ні прыгадаць манцёра Мечнікава: «Раніцай грошы — днём крэслы, днём грошы — увечары крэслы...» Можна і наадварот. «Але грошы наперад!»

За студзень-кастрычнік 2016 года выдаткі на набыццё машын, абсталявання і транспартных сродкаў скараціліся ў Беларусі на 24,3%. Годам раней за аналагічны перыяд скарачэнне склала 26,6%. Доля інвестыцый у ВУП апусцілася да 18%. З такім паказчыкам ні адна нацыянальная эканоміка яшчэ не расла.

Але беларускай мадэлі астатні свет не ўказ. Рост прадукцыйнасці працы будзе забяспечаны за кошт падштурхоўвання і падсцёбвання кіраўнікоў. У поўнай адпаведнасці з канстытуцыйнай роўнасцю ўсіх формаў уласнасці (артыкул 13) кухталямі ды бізуном плануецца стымуляваць у роўнай ступені кіраўнікоў як прыватных, так і дзяржаўных прадпрыемстваў…

*(Скарочана)*

**Сяргей Нікалюк**
**"Новы час"**

ТРАГІЧНЫ ВЫПАДАК

# «Я НІКОЛІ НЯ БЫЎ ДАРМАЕДАМ»…

**3 кастрычніка 60-гадовы Айвар Яскевіч заплаціў 360 рублёў падатку за «дармаедства». 6 сьнежня ён выкінуўся з 5 паверху, з сваёй кватэры ў Асіповічах. На стале пакінуў запіску і квітанцыю пра сплату «дармаедзкага падатку».**

«Там было напісана: «Я ніколі ня быў дармаедам, гвалтаўніком, рабаўніком, я ўсё жыцьцё сумленна працаваў», — жонка Галіна кажа, што гэтыя словы запомнілася ёй найбольш.

З Галінай мы размаўляем у яе дома. У Яскевічаў сьціплая кватэра на апошнім паверсе панэльнага дому. Галіна трымае ў руках тэчку з дакумэнтамі — тут працоўная кніжка Айвара, пэнсійнае пасьведчаньне, пасьведчаньне вэтэрана працы, падзячныя лісты.

«Столькі дакумэнтаў, а цяпер вось гэта — галоўны дакумэнт», — кажа яна, паказваючы пасьведчаньне пра сьмерць. Тут жа ў тэчцы і паведамленьне аб прызнаньні Айвара «дармаедам», і квітанцыя, якая пацьвярджае, што падатак у 360 рублёў ён заплаціў.

Айвар Яскевіч — карэнны асіпаўчанін. Імя яму даў бацька ў гонар доктара, які выратаваў яго ў вайну. Пра выпадак з мужам, апавядае Галіна, гудуць усе Асіповічы. Кажа, што нават на памінках яго згадвалі як вельмі вясёлага і жыцьцярадаснага чалавека.

«Ён такі чалавек быў, ведаеце, нікога не пакідаў убаку, — распавядае яна. — Вельмі зычлівы з усімі. З усімі павітаецца, спытае, як маюцца, як жыцьцё».

У Айвара 34 гады працоўнага стажу. Незадоўга да пэнсіі ён звольніўся з КРЗ (так у Асіповічах па звычцы называюць кардонна-рубэроідавы завод. Цяпер гэта прадпрыемства «Тэхнанікаль»). Там ён адпрацаваў 30 гадоў.

«Стасункі з начальствам былі ня вельмі добрыя. Ён напісаў заяву пра звальненьне — ганарлівы быў. І з траўня 2014-га не працаваў, — апавядае Галіна. — Мы спрабавалі ўладкавацца, але год да пэнсіі заставаўся — нідзе не хацелі яго браць… І вартаўніком хацелі, але нідзе ня бралі. Месяц, відаць, адпрацаваў апэратарам кацельні», — тлумачыць Галіна.

У красавіку Айвару споўнілася 60 і ён стаў пэнсіянэрам. А ўвосень атрымаў паведамленьне, што дзяржава прызнала яго дармаедам.

«Ён сабраў дакумэнты — пэнсійнае пасьведчаньне, працоўную кніжку, кажа: „Пайду ў падатковую, усё гэта пакажу“, — Галіна згадвае апошнія месяцы жыцьця мужа. — Прыходжу з працы, пытаюся: „Айвар, ты быў?“. Ён адказвае: „Быў, нічога не заплаціў, маўляў, сказалі — якія вы дармаед“. Гэта ён сябе так супакойваў».

Жанчына кажа, што пра такую трагедыю яна не магла нават падумаць. «Гаварыў, што „вось высакосны год, як бы мне яго дажыць“, — кажа Галіна. — У яго была вельмі моцная дэпрэсія, асабліва апошні месяц. Ён калі сышоў з КРЗ, дзе адпрацаваў 30 год, вельмі моцна здаў — і сьпіна, і ціск, раздражнёны стаў. Мы ўжо і на прагулкі зь ім хадзілі, я яго супакойвала. Але нічога не прарочыла, каб вось так скончыць жыцьцё».

Нават у той дзень, 6 сьнежня, муж паводзіўся як звычайна, і яна нічога не адчула. Галіна працуе настаўніцай пачатковых клясаў у мясцовай школе. У яе 29 гадоў стажу, і яна ўжо таксама зьбіралася на пэнсію па выслузе гадоў. Але праз падвышэньне пэнсійнага ўзросту яшчэ будзе працаваць.

«Праводзіў мяне, дзьверы зачыніў, спытаў: „Калі будзеш?“. Я і падумаць не магла, — згадвае яна. — Вось гэтая квітанцыя, гэты падатак яго падштурхнулі да гэтага кроку. Калі б я яшчэ была дома… Але спыніць не было каму», — апавядае жанчына.

«З працай лягчэй. Дахаты не хачу прыходзіць, — тлумачыць яна. — Цяжка».

Галіну Пятроўну прыйшла падтрымаць яе калега і сяброўка Аксана. Яна кажа, што «трагедыя ўскалыхнула ўвесь горад».

«Мы ведаем, што мужчына пакінуў запіску, у якой напісаў, што ў жыцьці ён не дармаед, і пакінуў квітанцыю пра сплату падатку за дармаедзтва. Чалавек усё жыцьцё адпрацаваў, да пэнсійнага ўзросту, выйшаў на пэнсію, атрымаў званьне вэтэрана працы, усё жыцьцё добрасумленна працаваў, — кажа Аксана. — І замест таго, каб жыць далей, карыстацца тым, што ён зарабіў, ён сышоў з гэтага жыцьця».

Аксана апавядае, што і ў яе сям'ю прыйшло паведамленьне пра «дармаедзтва». Яго атрымала 22-гадовая дачка. «Ёй 22 гады. Яна цяпер працуе. І ўвогуле працуе з 15 гадоў, — кажа Аксана. — Падатак яна мусіць плаціць у сувязі з тым, што ў 2015 годзе працавала менш за 183 дні». Дзяўчыну тады звольнілі з працы, і пэўны час яна шукала працу, якая ёй падабаецца. — «І мы мусілі заплаціць 150 рублёў. Я перажывала, вось Галіна Пятроўна ведае. Для мяне гэта было балюча».

Жанчына доўга разважае, якія добрасумленныя і працавітыя беларусы. «Мы маладая эўрапейская дзяржава. У якой дзяржаве Эўропы яшчэ такое ёсьць? — пытаецца Аксана. — Закон абсалютна не прадуманы… У такіх умовах, калі дзяржава ня можа забясьпечыць людзей годнай працай, уводзіць падатак на дармаедзтва — гэта неабдуманы крок».

Аксана ўспамінае Айвара як усьмешлівага і прыязнага чалавека. «Высокі, прыгожы… Гэта быў шок, — кажа Аксана. — Гэта крок у нікуды. І гэты крок яму дапамагла зрабіць дзяржава».

Галіна Пятроўна кажа, што на працы ёй лягчэй перажываць гора. Быць дома ўсё яшчэ цяжка. Апавядае, што хоча атрымаць ад сьледчага хаця б копію запіскі, якую пакінуў яе муж.

«Я двойчы ўжо ў падатковую хадзіла, — са сьлязьмі кажа яна. — Думала, можа грошы гэтыя вернуць, 360 рублёў. Яны скапіявалі гэтыя дакумэнты, але — нічога. Нідзе праўды не дабіцца. Кажуць, такі закон».

**"Радыё Свабода"**

НАВАЦЫЯ Ў АДУКАЦЫІ

# «УЧЕБЫ НЕ БУДЕТ НИКАКОЙ…»

**Учитель и психолог прокомментировали изменения в Кодексе об образовании, которые затронут многих белорусов. Дети смогут идти в первый класс с пяти лет, а наполняемость классов увеличат до 30 учеников. Соответствующие изменения планируют внести в новую редакцию Кодекса об образовании. Как это повлияет на качество образования, анализируют эксперты Завтра твоей страны.**

**«Неопытных и неумелых учителей много. Куда им еще тридцать детей в класс?»**

Наполняемость классов в тридцать человек учитель гимназии Анна Северинец называет «преступлением против человечества».

— Учебы не будет никакой. Сильнейшие, конечно, выживут, слабейшие потеряют последний шанс научиться чему-то в рамках общей школы, — прогнозирует учительница.

Возможно, авторы этой поправки вспоминали свое школьное детство, когда в классах сидели и по 35, и по 40 учеников.

— Но тогдашние дети, с их советской выправкой, коллективным самосознанием, умением самоуничижаться перед взрослыми еще могли учиться в таких диких условиях. Сегодняшние дети этого уже не умеют — и слава Богу, — говорит Анна Северинец.

В наше очень индивидуализированное время, когда у многих детей уже свои комнаты, свои рабочие места дома, когда уходит необходимость отстаивать толпами очереди ради каких-то благ, бессмысленно надеяться, что можно научить чему-нибудь 30 индивидуальностей скопом.

В классе, где учится старший ребенок психолога и медиатора Олеси Пономаренко, 32 человека.

— Учитель говорит, что работать очень тяжело, потому что всем внимание уделить не удается. Учебный процесс строится исходя из того, что учитель должен уделить внимание как успевающим детям, так и тем, кто отстает. Увеличение количества детей в классе только усугубит эту ситуацию, — считает психолог.

Эксперт полагает, что в итоге укрупнение классов негативно скажется и на успеваемости, и на заинтересованности детей, которая и без того падает.

— Ребенок идет в школе не только за знаниями. Мотивация — это еще и построение взаимоотношений. Когда учитель не может уделить внимание ребенку, у него падает заинтересованность в том, чтобы ходить в школу, — подводит итог Олеся Пономаренко.

«Сэкономите на школах — разоритесь на тюрьмах»

По мнению Анны Северинец, классы, наоборот, надо серьезно уменьшать.

— Хорошее количество — это 12-15 человек. Это работоспособный коллектив. Большее количество детей в классе вызывает трудности, с которыми не каждый учитель справится. Неопытных и неумелых учителей много. Куда им еще тридцать детей в класс?

Станет ли в белорусских школах меньше учителей-недоучек?

**«Психика пятилетнего ребенка не готова к школе»**

Появившуюся возможность отдавать ребенка в школу с пяти лет Анна Северинец рассматривает как позитивное изменение.

— Это ведь не обязанность, а добрая воля родителя, который видит своего ребенка, знает, на что он способен, сможет ли он легко и комфортно вписаться в школьный режим — почему бы и не дать этой доброй воле выхода? — рассуждает собеседница. — Я сама шла в школу в шесть лет при тогдашнем семилетнем общем пороге, и никаких проблем.

Тут главное не увлечься гонкой за призрачным успехом, а внимательно и доброжелательно следить за развитием собственного ребенка, предупреждает учительница.

Однако психолог Олеся Пономаренко считает, что детская психика к пяти годам не готова к учебному процессу.

— В школе нужны самоорганизованность и взаимодействие в социуме, — подчеркивает эксперт.

По мнению Олеси Пономаренко, психика пятилетнего ребенка не готова к школе, и поход в первый класс в этом возрасте может привести к развитию заболеваний.

— Ребенок может стать тревожным, плохо спать. Его психика может не справиться с задачей, которую на него возлагают. Как результат — это скажется не только на успеваемости, но и на общем психофизиологическом уровне.

Специалист не советует родителям отдавать детей в школу с пяти лет.

—Большинство детей готово к школе ближе к семи годам. Хотя бы в шесть с половиной, — говорит Олеся Пономаренко.

**Мария Владимирова**

**Заснавальнік і рэдактар:** Смолікаў Канстанцін Эдуардавіч

**Адрас рэдакцыі:** г. Віцебск, вул. 1-я Сенненская д.5, Тэл. +375-29-218-98-38, e-mail: kas_vit@tut.by
Газета выдаецца з лютага 2014 г.

**Падпісана да друку** 30.01.2017 у 17.30
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры падтрымцы аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.